Przesyłka opłacona gotówką.

Цана асобнага нумару 15 гр.

# БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЭТА

№ 1 | Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі: Вільня, Людвісарская 8—8. | Вільня 8-га чэрвеня 1933 г. | Выходзіць два разы ў месяц. | Год I.

Цана абвестак паводле ўмовы. | Прыймо інтарэсантаў ў рэдакцыі у нядзелі і чацьвяргі ад 10 да 2 гадз. | Цана падпіскі з дастаўкай поштай: у месяц—25 гр., у 3 » —70 », у ½ года—1.30, у 1 год —2.50



## АД РЭДАКЦЫІ.

Вялікія зьмены ў укладзе грамадзкіх сіл адбываюцца сяньня ня толькі ў Нямеччыне, Амэрыцы, Кітаі, Японіі, ня толькі ў магутных дзяржавах Эўропы і іншых кантынэнтаў, але ў няменшай меры і ў нашай краіне. Народ, вякамі трыманы ў кайданох фэодальна-царскай няволі, загнаны ў непрагляднўю цемру, пазбаўлены друкаванага слова ў роднай, зразумелай для яго мове; народ, якому яго лютыя ворагі сьпявалі з трыумфам хаўтурныя гімны—не памёр. Ён быў прыбіты, скаваны, загнаны, паняверыны, але *жывы*. Яго жыцьцёвыя сокі крыліся ў мільённых, прыгнечаных масах, у варунках іхняга быту, у іх поце і крыві, у іх мове, песьнях, байках, стогнах, у іх прыгнечаньні і няволі. Такі супярэчны бег людзкое гісторыі.

І сяньня народ гэты „абудзіўся ад дрымоты". Пад уплывам вялікіх грамадзкіх падзеяў пачатку нашага стагодзьдзя беларускі народ, разам з іншымі залежнымі народамі, падняў галаву, і заявіў на ўвесь сьвет, што ён хоча быць сам гаспадаром свае краіны, сам распараджацца сваім жыцьцём, хоча сам азначыць свой лёс. Ня хоча мець накінутых яму апякуноў, а быць роўным і вольным „у сям'і нязьлічаных славян", хоча ўходзіць у саюз з іншымі народамі і дзяржавамі, як самастойная адзінка. Праўда, далейшыя выпадкі падзялілі нашу краіну рыскім нажом на дзьве асноўныя часткі — Усходнюю — Беларускую сацыялістычную Савецкую Рэспубліку і Заходнюю у якой сяньня знаходзімся мы.

Нацыянальна-адраджэнская праца ў Зах. Беларусі, перамагаючы спатыканыя на сваім шляху труднасьці, ідзе няўпынным крокам наперад. Сяньня ўжо ня кучка інтэлігентаў зьяўляецца апорай нашага руху. Заварушыліся мільёны цёмных, забітых, спрацаваных „мужычкоў", як казаў наш поэт. Сяньня ўжо ня толькі інтэлігенты зьяўляюцца правадырамі народу і „тварцамі беларускае нацыянальнае культуры", як хоча прадставіць „Родны Край", сяньня сам народ у працэсе культурна-асьветнай працы высоўвае і выпрацоўвае сваіх натуральных правадыроў, творыць сваю культуру. Мазольная рука беларускіх масаў горнецца з нястрыманай сілай да пяра, да кніжкі, да газэты, да ўласных арганізацыяў. Народ у сваёй аснове пачынае што-раз ясьней усьведамляць сабе чым ён ёсьць, вывучаць сваю гісторыю, што-раз шырэй адчыняюцца яму вочы і перад ім поўстаюць контуры шляху, па якім трэба ісьці. Вось дзе *залог бязсьмертнасьці руху*, паміма часовах адплываў і адыходу слабейшых элемэнтаў ад яго. І ніякая сіла ня зможа стаць яму на дарозе. Гэта жалезны закон гісторыі. Апошнія гады зьяўляюцца найлепшым пацьверджаньнем гэтага.

Вялікай балячкай нашага руху сягоньня ёсьць амаль поўная адсутнасьць прэсы ў роднай мове. З усіх куткоў нашага краю даносіцца голас: „Дайце газэту! Дайце нам праўду аб тым, што дзеецца ў сьвеце"! Адкажыце на балючыя пытаньні дня!" І дзе-б мы не зьявіліся заўсёды пачуем адну і тую-ж скаргу і нараканьне на брак газэты ў роднай мове і ў родным духу. Галасы гэтыя стануць зусім зразумелымі, калі ўявіць сабе тую ролю і значэньне, якое адыгрывае сяньня газэта ў кожным руху, а ў нацыянальна-адраджэнскім у асабліва-сьці. Газэта—гэта адна з найлепшых прыладаў працы і барацьбы. Газэта—гэта найлепшы сродак правядзеньня і ўмацаваньня свае ідэолёгіі. Газэта—адзін з лепшых спосабаў выхаваньня народу. Урэшце газэта — гэта да *пэўнай меры*, у нашых варунках, адбіцьцё, ад'ілюстраваньне жыцьця. Адсюль зусім зразумелая патрэба яе. І чым больш культурны народ тым больш газэт, журналаў і часопісаў выдаецца ў яго краіне.

Вось-жа, будучы перакананымі ў слушнасьці ўсяго гэтага, даем сяньня нашаму народу першы нумар „Беларускай Газэты". Задача, да якой мы прыступілі, зьяўляецца запраўды цяжкай. Найвялікшая труднасьць палягае на браку матэрыяльных сродкаў. І таму з гарачым заклікам зьвяртаемся да ўсіх, хто хоча каб наша газэта прадаўжала сваё існаваньне: *Дапамажыце!* Дапамажыце зараз-жа, безадкладна! Хай „Бел. Газ.", хоць у нязначнай меры прычыніцца да ліквідацыі таго анармальнага стану, у якім сяньня знаходзіцца наш народна-адраджэнскі рух. Хочам даць народу максімум таго, што можна даць у нашых варунках. Прыступаючы да працы мы маем падставы да глыбокага перакананьня, што ініцыятыва наша знойдзе належны водгук і зразуменьне ў гушчах найшырэйшых слаёў беларускага народу, што па атрыманьні гэтага нумару, кожны сьвядомы грамадзянін палічыць за свой грамадзкі абавязак падтрымаць нас матэрыяльна і духова. У такім толькі выпадку газэта наша можа нятолькі паказацца ў сьвет, але і ўгрунтаваць свой сталы быт, выходзіць часьцей і павялічыць разьмеры. Неадкладнае масавае падтрыманьне „Белар. Газ.", пашырэньне яе паміж найшырэйшых слаёў народу, надсыланьне артыкулаў, карэспандэнцыяў, апавяданьняў, вершаў, рэпортажаў, фэльетонаў—усё. гэта ператворыць нашу прыватную ініцыятыву ў ініцыятыву самога народу. Справа жыцьця газэты стане запраўды справай саміх мас.

**Першы нумар „Беларускай Газэты" разсылаецца як пробны. Наступныя нумары будуць высланы толькі тым, хто прышле падпісную плату.**

*Адміністрацыя.*

## Да самаадукацыі!

Шмат у нас гаворыцца аб страшэнна нізкім культурным роўні беларускіх народных мас. Гэта і зразумела. Краіна наша, зьяўляючыся адносна адсталай у сэнсе разьвіцьця прадукцыйнай тэхнікі, машынізму, у сэнсе поступу ў галіне эканамічна палітычнай, сілаю рэчаў ставіць гушчы народу на нізкім узроўні культуры. Ня можа быць мовы аб высокай цывілізацыі, аб узросьце яе там, дзе селянін абрабляе свой загончык-касьнік пры помачы прымітыўнага плуга або сахі, дзе цэп зьяўляецца яго вечным зімнім таварышам, дзе з браку памяшчэньня куры, парасяты і цяляты знаходзяць сабе прытулак у хаце разам з дзяцьмі, дзе зямельны голад што-раз мацней і мацней заціскае сваю касьцістую руку навокала шыі вясковае беднаты, дзе, ўрэшце, голад зьяўляецца даволі частым госьцем беззямельных і малазямельных. Ужо гэта ставіць непераможныя перашкоды нармальнаму прыплыву культурнага багацтва пад цёмную, няпрытульную, саламяную стрэху мужыка. Ужо гэта разносіць кожын сьвежы павеў культурнага паветра, гасіць праменьні яснага сонца. Але для нас яно дапаўняецца, можна сказаць, поўнай адсутнасьцю школы у роднай, увассанай з малаком маткі, беларускай мове, што ў значнай меры ўзмацоўвае той мур, які стаіць на шляху да здабыцьця хаця-б таго, што магчыма ў сяньняшніх абставінах.

Польскія народныя школы, дзе дзіця змушана рабіць першыя крокі ў малазразумелай для яго мове, ня спрыяюць яго нармальнаму ўмысловаму разьвіцьцю. Акалічнасьць гэтая стварае нязвычайныя труднасьці для належнага апанаваньня таго навет засягу навукі, які накрэсьлены ў школьных праграмах. Для кожнага азнаёмленага з пэдагогікай факт гэты зьяўляецца зразумелым і гэта прызнаюць часта тыя, хто пашырае польскую школу сярод беларускага насяленьня. Калі да гэтага дадаць, што на Зах. Беларусі зусім мала т.-званых сямігодак, а пераважае тып двох і чатырохгадовае школы, дык мімаволі прыходзіш да вываду, што на працягу так кароткага пэрыяду дзіця ня можа здабыць такога багацтва веды, якое-б перавышала яго ўмысловую ўбогасьць. Аб сярэдняй школе – трудна гутарыць. Аб тых дзьвёх т.-зв. беларускіх філіях польскіх гімназіяў у Вільні і Наваградку, якія захаваліся да гэтага часу ў зьвязку з унутранымі працэсамі ў іх трудна сяньня сказаць, што яны зьяўляюцца беларускімі ў поўным значэньні гэтага слова. Але і бяз гэтага пры сяньняшнім стане селяніну пасылаць сваё дзіця ў гімназію або сэмінарыю — гэта азначае зруйнаваць або падкапаць сваю гаспадарку, каб магчы ўтрымаць яго, аплаціць за навуку, купіць падручнікі.

Адсюль тая страшная культурная адсталасьць. адсюль той смутны факт, што цемра — гэты заядлы вораг людзкасьці зьвівае сабе гняздо перад-усім у цёмнай халупе мужыка, засланяючы яму шлях да лепшай будучыні, закоўваючы што-раз мацней у ланцугі цяперашніх варункаў.

Ці ёсьць выхад з такога палажэньня? Выпадкі апошніх гадоў у нашай краіне адказваюць на гэтае пытаньне сцьвярджальна. Так, выхад ня толькі ёсьць, але беларускі народ вядзе ўжо ў паасобных больш сьвядомых раёнах жывую масавую культурна-асьветную працу ў розных формах. Побач з дамаганьнем школы ў роднай мове больш сьвядомы і ахвярны пласт народу саматугам, сваімі ўласнымі рукамі пачаў браць для сябе тое з навукі, што можна. Найлепшай хіба ілюстрацыяй гэтага ёсьць магутны ўзрост і разьвіцьцё тых беларускіх арганізацыяў, якія вялі і вядуць праўдзівую культурна-асьветную працу.

Вёска і горад загаварылі аб кніжцы, аб газэце, аб спэктаклях, аб лекцыях, аб харавых дружынах, адсылаючы ў мінулае гісторыі гарэлку і разбоі. Народ узварушыўся і паміма шкод і перашкод, паміма таго, што перад ім цярністы шлях жыцьця і працы, ідзе сцэмантаваным шэрэгам да вызначанае мэты. Апошнія гады даказваюць, што ня ўся труднасьць у вонкавых чынніках. Пад ляжачы камень вада не цячэ — кажа прыказка. Ня можна бязьдзейна апускаць рукі, бачачы, што трудна вясьці культурную працу. Трэба памятаць, што, у зьвязку з нашай адсталасьцю, перад намі толькі труднасьці. Але сьхіляньне перад імі галавы—азначала-б аддаць сябе на волю лёсу. Той, хто зразумеў запраўднасьць хто хоча прычыніцца да вызваленьня народу з адвечных путаў цемры не павінен складаць рук і чакаць на надыход лепшых дзён. Ніхто гэтага ня зробідь, калі мы самі ня зробім. Нам трэба самім адукаваць сябе!

Самастойным груповым, або навет індывідуальным вывучэньнем беларускае мовы, чытаньнем кніжак і газэт, спэктаклямі, лекцыямі і рэфэратамі, закладаньнем бібліатэк, тварэньнем гурткоў культурна-асьветных арганізацыяў і кружкоў самаадукацыі, мы створым для саміх сябе унівэрсытэты, створым аружжа, якое разбурыць магутную таму-цемры і адчыніць дарогу прыліву новага жыцьця ў беларускую вёску, дапаможа нам зразумець акружаючыя зьявішчы. Трэба проста прызнаць, што мы ня ўмеем, а часамі ня хочам выкарыстаць усіх існуючых магчымасьцяў для нашай працы ў кірунку самаадукацыі. Кожын, хто ўмее пісаць і чытаць пабеларуску, павінен навучыць гэтаму свайго суседа. У кожнай вёсцы, у кожным горадзе трэба стварыць такую або іншую форму арганізацыі, якая-б вяла сыстэматычную барацьбу з няпісьменнасьцю і малапісьменнасьцю. Толькі такім чынам наш нацыянальна-адраджэнскі рух будзе набіраць свае моцы, толькі тады стане чыньнікам, з якім змушаны будуць лічыцца нашы прыяцелі і непрыяцелі.

Самаадукацыю на парадак дня!

**Лёс „Бел. Газэты" залежыць тольк- ад падтрыманьня масаў.**

лаў, якая адбываецца сяньня ў-ва ўсей Эўропе. Урады абедзьвюх дзяржаў, паміма асноўных розьніцаў у будове грамадзкага ладу, што раз глыбей пераконваюцца аб тым, што эканамічнае супрацоўніцтва зьяўляецца неабходным варункам нармальнага разьвіцьця гаспадаркі абедзьвюх дзяржаў. Дэлегацыя адведала галаўнейшыя цэнтры польскай прамысловасьці, дасьледуючы такім чынам экспортныя і імпортныя магчымасьці для свайго краю. Побач з падпісаньнем у прошлым годзе трактату аб неагрэсіі факт гэты зьяўляецца адным з чарговых паважных крокаў у унармаваньні адносінаў паміж СССР і Польшчай.

### Саветы закупляюць у Польшчы зялеза на 30 мільёнаў злотых

Апошнімі часамі гандлёвае прадстаўніцтва СССР у Варшаве заказала ў польскіх гутах каля 100 тыс. тонн зялеза на агульную суму 30 мільёнаў злотых.

Заказ гэты будзе выкананы да канца 33 году.

### Безрабоцьце

Паводле апошніх даных лік безработных у Польшчы выносіць 247 тыс. 866 асобаў. Апошнімі часамі ў зьвязку з надыходам сэзонных прац лік безработных нязначна зьменшыўся.

## Заграніца

### Парагвай аб'явіў вайну Болівіі

Урад Парагваю афіцыяльна аб'явіў вайну Болівіі. У-ва ўсім краі аб'яўлена мабілізацыя войска. У кірунку балівійскай граніцы пасоўваюцца вялікія войсковыя сілы.

### Японскае войска ўступае ў Пэкін

Апошная газэты падаюць, што часьці японскага вайска пасьля вялікіх бітваў уступаюць у Пэкін. Над горадам лётаюць японскія аэропляны.

### Забойства прэзыдэнта Пэру

У пачатку мая гэтага году ў Пэру трох замахоўцаў, належачых да апазыцыйнае партыі „Апрыста", стрэламі з рэвальвэраў забілі прэзыдэнта Санчэз Кэрро.

### 17 мільёнаў безработных у Амэрыцы

Як вынікае з ацэнкі інстытуту Аляксандра Гамільтона лічба безрабатных у Амэрыцы дасягае 17 мільёнаў асоб.

### Трактат аб неагрэсіі паміж Францыяй і СССР

У палаце дэпутаваных Францыі дня 19 мая адбылася дыскусія над француска-савецкім трактатам аб неагрэсіі: 520-цю галасамі прынята рэзолюцыя, якая выражае задаваланьне з вымены ратыфікацыйных дакумэнтаў паміж абедзьвімі дзяржавамі. У адказ на гэта камісар заграпічных спраў Савецкага Саюзу Літвінаў выслаў на адрэс францускага прэм'ера Поль Бонкура тэлеграму, у якой заяўляе, што савецкі ўрад прыняў з глыбокім задаваленьнем вестку аб аднадумнасьці, з якой францускі парлямант апрабаваў француска-савецкі трактат аб неагрэсіі.

### Вялікая прамова Гітлера

Дня 17-га мая г. г. канцлер Гітлер сказаў у нямецкім парляманце жданую ўсім сьветам палітычную прамову. На самым пачатку прамоўца заявіў, што труднасьці сяньняшнія вынікаюць з вэрсальскага трактату, які ня змог вырашыць, ані гаспадарчых, ані палітычных, ані нацыянальных праблемаў. Таму рэвізія трактатаў ёсьць і застанецца галоўным імкненьнем ураду, а рэвізія гэтая адносіцца перадусім да зьмены граніц, пры чым галоўны націск кладзецце на Польшчу і Францыю. Далей Гітлер спыняецца на пытаньні збраеньня, скардзячыся, што вэрсальскі дагавор, разаружаючы Нямеччыну ня мог прывясьці да пацыфікацыі Эўропы, а толькі выклікаць яшчэ большы хаос. Нацыянальны ўрад — кажа канцлер — паміма ўсяго гэтага гатоў жыць у згодзе з усемі суседзнімі дзяржавамі, калі-б апошнія згадзіліся на варункі Гітлера, што да разьвязаньня эўропэйскіх праблемаў коштам усходу. Нямеччына разброена, а штурмовыя брыгады і штальгэльму ня можна называць вайсковымі рэзэрвамі, бо яны служылі і служаць выключна як абарона Нямеччыны перад камуністычнай рэвалюцыяй. Гітлер далей дамагаецца роўнасьці збраеньняў, каб магчы стаць на варце „заходняй цывілізацыі", і агульнай бясьпечнасьці. Канцлер у канцы заяўляе, што яго ўрад гатоў прыступіць да трактату аб неагрэсіі з іншымі народамі, але ні ў якім выпадку ані ўрад, ані народ Нямеччыны не дадуцца змусіць сябе да падпісаньня такой умовы, якая ставіць іх краіну ў шэрэгі другарадных дзяржаў. Пробы націску застануцца бяз уражаньня.

Так гаворыць Гітлер. А факты маюць трошкі іншую вымову.

### Сацыяль-дэмакраты галасуюць за падтрыманьне палітыкі гітлерызму

Прамова Гітлера давяла яшчэ раз, што нямецкія сацыялісты сталіся вернай брыгадай свастыкі, запрагаючы сябе і рабочую клясу ў воз палітыкі нацыянал-сацыялізму. Падчас прамовы „правадыра" ўсе прысутныя на паседжаньні Рэйхстагу с.-д. паслы ўважна прыслухоўваліся да яго вывадаў, а па заканчэньні ўстаюць разым з усімі іншымі „становячыся згодна пры ім (пры Гітлеры) у гэтай рашаючай для краіны справе роўнаупраўненьня нямецкага народу". І разам з усімі заінтанавалі: „Deutschland, Deutschland über alles".

### Віхар зьнішчыў тры станы ў Амэрыцы

Страшны віхар адведаў станы: Кентукі, паўночная Караліна і Тэнассы. Паветраная труба рвала цэлыя дамы, нішчыла лясы, пераварочвала цягнікі і аўтамабілі. У-ва ўсіх трох станах налічваюць 85 трупаў і 500 асоб цяжка раненых. Матэрыяльныя шкоды—аграмадныя.

### Мірная дэклярацыя Рузвэльта

Нядаўна прэзыдэнт Злучаных Штатаў — Рузвэльт выстасаваў урачыстую дэклярацыю да 44 дзяржаў у справе зьмяншэньня збраеньняў і агульнай неагрэсіі.

Прыймаючы пад увагу, што супярэчнасьці паміж паасобнымі дзяржавамі з кожным днём завастраюцца, што эгоістычная палітыка паасобных урадаў і блізарукасьць палітыкаў не прыбліжаюць сьвет да пэрыяду агульнага даверра і супрацоўніцтва, а наадварот усё гэта пагражае міру і стабілізацыі эканамічных і палітычных стасункаў — Рузвэльт выступае з праектам сусьветнага трактату аб неагрэсіі.

У сваёй дэклярацыі ён даходзіць да таго, што ад падпісаньня трактату неагрэсіі залежыць магчымасьць заключэньня ўступнага дагавору, што да агранічэньня збраеньняў. Гэты дагавор забавязаўбы на пэўны пэрыяд часу Нямеччыну не пабольшваць сваіх зброеньняў, а іншыя дзяржавы —зрэдукаваць тое офэнзыўнае аружжа, каторага ня мае Нямеччына. Зьдзейсьненьне гэтага было-б канчатковым заданьнем Мірнай Канфэрэнцыі.

Міжнародная экономічная канфэрэнцыя ў Лёндане сталася-б зваротным пунктам у барацьбе за гаспадарчае аздараўленьне сьвету.

Дэклярацыя Рузвэльта выклікала вялікае зацікаўленьне ўва ўсей прэсе. Якія будуць практычныя рэзультаты акцыі Рузвэльта — трудна сяньня сказаць. Усё-ж на падставе тых засьцярогаў, якія выказаны паасобнымі ўрадамі можна сказаць, што плян прэзыдэнта Амэрыкі спаткае на шляху да свайго зьдзейсьненьня вялікія труднасьці.

Характэрна, што дэклярацыя пераслана таксама і савецкаму ўраду, у чым прэса бачыць далейшы крок у кірунку навязаньня нормальных адносінаў паміж СССР і Амэрыкай.

### Трактат чатырох дзяржаў.

Трактат чатырох—Англія, Нямеччына, Францыя і Італія — мае быць у хуткім часе падпісаны. Францыя, якая спачатку выразіла цэлы рад засьцярогаў, сяньня дайшла да паразуменьня і згадзілася на стварэньне дырэкторыяту.

Паводле гэтага трактату чатыры ўспомненыя дзяржава маюць абгаворваць ды ўзгадняць паміж сабою ўсе важнейшыя справы раней чым аддаць іх на вырашэньне Лігі Народаў.

### „Трактат сямі" у адказ на „трактат чатырох".

Газэты падаюць, што ў зьвязку з падпісаньнем „трактату чатырох", у колах праціўных гэтаму трактату паўстае думка стварэньня паразуменьня сямі дзяржаў, якія-б мелі супроцьставіцца палітыцы чатырох. У блёк гэты ўходзілі-б: Польшча, Малая Антанта, Літва, Латвія і Эстонія.

### Вынікі выбараў у Данцыгу.

28 мая адбыліся выбары ў гданскі сойм, якія праходзілі у атмосфэры панаваньня гітлероўскіх баёвак. У рэзультаце — перамога нацыянал-сацыялістаў, якія на агульную лічбу 72—здабылі 38 мандатаў, сацыялісты—13, камуністы — 5, цэнтр — 10, нацыяналісты—4, палякі—2.

### Камуністічныя забурэньні ў Нью-Іорку.

АТЭ падае, што 21 мая г.г. у Нью Іорку адбыліся вялікія камуністычныя забурэньні. Камуністы урываліся групамі ў склепы, дэмалюючы іх. Акцыя трывала даўжэйшы час і толькі ўзмоцненыя сілы паліцыі змаглі апанаваць сытуацыю. Праведзены масавыя арышты.

### Каменеў і Зіноўеў.

У канцы прошлага месяца кіраўнікі троцкістоўскай апазыцыі — Каменеў і Зіноўеў—прыняты ізноў у партыю. Паводле газэтных вестак Зіноўеў мае ўзяць на сябе кіраўніцтва нямецкай сэкцыі Камінтэрну.

## Гаспадарчая хроніка

### Растуць мытныя муры.

Да рознага гатунку плянаў барацьбы з крызісам, да прапазыцыяў ажыўленьня гаспадарчага жыцьця зьніжэньнем мытных ставак, да надыходзячай міжнароднай эканамічнай канфэрэнцыі запраўдная запраўднасьць дае надзвычай добрыя ілюстрацыі ў выглядзе ўзросту і пашырэньня мытных бар'ераў.

За пэрыяд ад канца сакавіка да пачатку мая натуюць наступныя падвыжкі мытаў і новыя забароны прывозу:

*У Англіі.* 26 сакавіка—забарона ўвозу большасьці савецкіх тавараў. 5 мая павышаны мытныя стаўкі на дрожджы, рукавічкі з баваўняных матэрыялаў, глязураваныя сьценныя пліткі, на цэрамічныя руры, цэрамічныя выробы для хатняга ўжытку, на бульбу, на кошыкавыя вырабы, а ад 2 мая на прадукты з торфу, на рызінавы абутак і льняны алей.

*У Швэйцарыі.* 11 красавіка павышаны мытныя стаўкі на авёс, ячмень, на аўсяную муку і на муку з іншых збожаў.

*У Латвіі* павышаны мытныя бар'еры на ўсе імпартаваныя тавары ў высокасьці 15-працэнтнае дадатковае аплаты ad walorem (ад вартасьці).

*У Францыі* ў зьвязку з вычарпаньнем кантынгэнту на прывоз масла на другі квартал г. г. прывоз масла спынены зусім.

*У Эстоніі* на спісак рэглямэнтаваных тавараў унесены віка, насеньне тытуню і льну, фотографічныя плыты, шрубы і ніты, калючы дрот, воўну і гузікі.

*У Аўстрыі* павышаны стаўкі на прывожаную бляху, фігі, разынкі, мігдалы, гарэхі, мёд, на тэхнічны і спажыўчы алей, на смалу, на нафту і прадукты дыстыляцыі, на асфальт, парафіну, футра і г. д.

Такія шпаркія крокі робіць палітыка протэкцыянізму. А адначасна столькі крыку навокала міжнароднага эканамічнага супрацоўніцтва.

### Рэдукцыя збыту вугаля.

У красавіку наступіла далейшая зьніжка кансумцыі вугаля ў краі. Памяншэньне збыту трэба тлумачыць у першую чаргу дэзор'ентацыяй, якая паўстала ў зьвязку з дэкрэтам аб зьніжцы цэнаў, а таксама з прычыны пагалосак аб значнай зьніжцы краёвых тарыфаў, што прычынілася да ўстрыманьня купцоў ад закупу вугаля. Фактам сцьверджаным зьяўляецца тое, што шэраг прамысловых купцоў запатрабаваньне на красавік пакрывалі з сваіх запасаў, не заказваючы вугальлю на капальнях. Апрача гэтага ў красавіку зазначыўся паважны спадак вугалю за граніцу, як з сілезскага, так і з дамброўскага раёнаў. Зьменшыўся вываз у Швайцарыю, Чэхаславацыю, Данію і на скандынаўскія рынкі. У першай палове мая ў параўнаньні з такім-жа пэрыядам папярэдняга месяца экспорт польскага вугаля абнізіўса на 12 тысяч тоннаў.

### Сусьветны запас золата.

Сусьветны запас золата выносіць сяньня 295 мілярдаў 700 мільёнаў, франкаў. Злучаныя Штаты маюць 99 мілярдаў 800 мілёнаў, Францыя 80 мілярдаў 400 мільёнаў, Англія 18 мільярдаў 900 мільёнаў, Японія 5 мільярдаў 400 мільёнаў, Нямеччына 4 мільярды, 900 мільёнаў іншыя дзяржавы 77 мільярдаў 966 мільёнаў франкаў. Як бачым у Злуч. Штатах і ў Францыі знаходзіцца 60 прац. агульнага запасу золата.

### Крызіс у цукроўніцтве.

У зьвязку з значным скарчэньнем кансумцыі цукру, апошнімі часамі зачынена 10 цукроўняў на абшары краю. У бліжэйшым часе маюць быць зачынены далейшыя 6 цукроўняў. Большасьць зачыненых цукроўняў знаходзіцца на абшары быўшае Кангрэсувкі. Адначасова цукроўні »Моблін«, »Зьберск«, »Лесьмер« і »Гарбаў« агранічылі лік працоўных гадзін да 4 ў дзень«.

«Gaz. Warsz.» (18-V)

### Агульны спадак прадукцыі.

Дня 13 мая г. г. адбыўся сход Рады Цэнтральнага Саюзу Польскай прамысловасьці, на якім адбылася дыскусія аб гаспадарчай сытуацыі краю. У рэзультаце дыскусыі сцьверджана, што дэпрэсія нястрымана пасоўваецца наперад што »дна« яшчэ ня відаць, а гэта з асаблівай яскравасьцю выявілася ў галіне інвэстыцыйных вытвораў.

Абарот фабрыкаў сельска-гаспадарчых машынаў асягнуў ледзь ад 1 да 2 з паловай працэнтаў стану з 1929 г.; абарот фабрык сельска-гаспадарчых прыладаў выносіць толькі каля 4 %. Збыт вугалю у краі зьменшыўся ў красавіку на 200 тыс. тонаў — экспорт — на 100 тыс. тон. У гутніцтве заказы гуртовага гандлю зьменшыліся ў красавіку амаль на палову. Фабрыкі вагонаў стаяць на пярэдадні зачыненьня альбо ў апошнім выпадку часовага спыненьня працы. У падобнай сытуацыі знаходзяцца фабрыкі катлоў, мастоў.

### Стан засеваў у СССР.

ПАТ. падае, што ў Савецкім Саюзе ў гэтым годзе засеяна 25 мільёнаў 320 тыс. гэктараў. У прошлым годзе ў гэтую самую пору было засеяна 14 міл. 976 тыс. гэктароў.

**Кожны прысланы грош—гэта цэгла фундаманту, на якім апіраецца будучыня „Бел. Газэты". Прысылайце падпісную плату.**

Рэдактар-выдавец А. Карповіч.

Друкарня Я. Левіна Вільня, Нямецкая 22